# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950г. | Чацвер, 24 лістапада 1994 года | № 126 (10826) | Цана 50 руб.

## ІНВЕСТЫЦЫІ ІДУЦЬ НА БЕЛАРУСЬ

Адбылася сустрэча прэм"ер-міністра Міхаіла Чыгіра з дырэктарам па развіццю бізнесу аўстралійскай кампаніі "Кока-кола аматыл лімітэд" Рычардам Дэбенхэмам. Размова ішла аб расшырэнні дзелавых кантактаў, інвесціраванні фірмай шэрагу праектаў па вытворчасці безалкагольных напіткаў. Да канца 1995 года, паведаміў прэм"еру Р.Дэбенхэм, фірма збіраецца інвесціраваць у эканоміку рэспублікі каля 15 мільёнаў долараў. Гэта сродкі на пераабсталяванне памяшкання ў завод безалкагольных напіткаў, устаноўку магутнасцей для падрыхтоўкі вады і вырабу сіропу, лініі разліву і абсталявання для выпуску пластыкавых бутэлек, на іншыя мэты.

Расшырэнню дзелавых адносін, паводле слоў Р.Дэбенхэма, садзейнічалі перагаворы прэм"ер-міністра Міхаіла Чыгіра з афіцыйнымі асобамі і прадстаўнікамі дзелавых колаў ЗША, якія ён вёў у час візіту ў ЗША.

*Прэс–служба Кабінета Міністраў — БЕЛІНФАРМ.*

## КАМФАРТАБЕЛЬНЫЯ ЗАБРУДЖВАЛЬНІКІ

У кожным пятым аўтамабілі, правераным мінскай аўтаінспекцыяй, перавышаны дапушчальныя нормы ўтрымання ў выхлапных газах таксічных рэчываў.

Як паведаміў намеснік старшыні Мінгарвыканкома Ігар Зелянкевіч, палавіна шкодных выкідаў у атмасферу сталіцы належыць аўтатранспарту. Прычым 60 працэнтаў транспартных забруджванняў прыпадае на іншамаркі.

На чысціню паветра ўплывае і якасць бензіну. Апошнім часам яна знізілася. Павялічылася пастаўка этыляванага бензіну, які пры выхлапе ўтрымлівае свінец.

Праблема чысціні паветра была разгледжана на пасяджэнні Мінгарвыканкома. Прынята рашэнне службе метралогіі і стандарту ўзмацніць кантроль за якасцю паліва. Камерцыйныя структуры, якія завозяць нізкаякасны бензін, будуць пазбаўляцца ліцэнзіі на права гандлю нафтапрадуктамі.

*Павел ВЕРАБ"ЁЎ.*

ФАКТЫ ● ПАДЗЕІ
АРГУМЕНТЫ ● МЕРКАВАННІ

# «Прамая лінія»

## са старшынёй аблвыканкома прайшла пры высокай актыўнасці

Больш трох гадзін старшыня аблвыканкома А.І.Цішкевіч адказваў учора на тэлефонныя званкі жыхароў Міншчыны падчас "прамой лініі", арганізаванай "Мінскай праўдай". Пытанняў было шмат, і самых розных: ад забеспячэння насельніцтва хлебам да праблем узаемаадносін паміж існуючымі галінамі ўлады і ствараемай прэзідэнцкай вертыкаллю. Паступалі і канкрэтныя прапановы па ажыццяўленню тых ці іншых планаў аздараўлення нашай эканомікі, паляпшэнню жыцця людзей, узмацненню барацьбы са злачыннасцю і г.д.

Затым адбылася сустрэча А.І.Цішкевіча з калектывам рэдакцыі газеты, у час якой узнімаліся пытанні дзейнасці сродкаў масавай інфармацыі.

Справаздача аб "прамой лініі" будзе апублікавана.

## Бежанцам у Беларусі дапамагае ААН

Упраўленне вярхоўнага камісара па справах бежанцаў ААН даверыла Таварыству Чырвонага Крыжа Рэспублікі Беларусь выкананне важнай місіі па аказанню грашовай дапамогі бежанцам з краін далёкага замежжа, якія знаходзяцца цяпер на тэрыторыі нашай рэспублікі. Сродкі для гэтай мэты выдзеліла ААН, а рэспубліканскі Чырвоны Крыж узяў на сябе функцыі пасрэдніка. Частка грошай ужо выдадзена на рукі бежанцам з Афганістана, Эфіопіі, Ірана, Венесуэлы і некаторых іншых краін. Такая дапамога будзе аказвацца штомесяц.

*Аляксандр ЛІМАНОЎСКІ, БЕЛІНФАРМ.*

## ДЗЕЦІ – ДЗЕЦЯМ

Так умоўна можна назваць культурную акцыю, арганізаваную Мінскай гарадской бібліятэкай № 1 імя Льва Талстога. Тут умеюць знаходзіць нетрадыцыйныя формы работы з падрастаючым пакаленнем. Вось і цяпер у якасці "прапагандыстаў" нацыянальнай культуры і яе традыцый былі запрошаны не прафесійныя лектары, а чацвёртакласнікі з Сенніцкай школы імя Янкі Купалы. Паглядзець і паслухаць сваіх равеснікаў сабраліся вучні мінскай сярэдняй школы №56.

У рамках праграмы "Адраджэнне" ў Сенніцкай школе вось ужо чацвёрты год праводзіцца своеасаблівы эксперымент, якім кіруе дацэнт Беларускага універсітэта культуры, кандыдат мастацтвазнаўства Ілья Сучкоў. Разам з выкладчыкам гэтай школы Фаінай Таранавай ён праводзіць тут спецыяльныя заняткі па фальклору, беларускай мове, нацыянальных традыцыях, выяўленчаму мастацтву, тэатральнаму майстэрству. Спецыяльна для сустрэчы ў бібліятэцы хлопцы і дзяўчаты самі зрабілі герб "Пагоня", беларускі сцяг і расказалі гісторыю іх узнікнення. Яны паказалі таксама канцэртную праграму, у якую ўвайшлі фальклорныя нумары з выкарыстаннем беларускіх народных інструментаў.

*г. Мінск. БЕЛІНФАРМ.*

# АБСКАРДЖАННЮ НЕ ПАДЛЯГАЕ...

21 лістапада Канстытуцыйны суд прадоўжыў разгляд справы аб адпаведнасці Канстытуцыі Закона «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон »Аб мясцовым самакіраванні і мясцовай гаспадарцы ў Рэспубліцы Беларусь", які быў прыняты парламентам 6 кастрычніка.

Намеснік старшыні Канстытуцыйнага суда Валерый Ціхіня праінфармаваў, што 18 лістапада суд завяршыў даследаванне сабраных па гэтай справе даных, у ходзе чаго былі заслуханы выступленні бакоў, заключэнні экспертаў.

Нагадаю, што яшчэ ў пятніцу Канстытуцыйны суд уважліва вывучыў заключэнні экспертаў. У прыватнасці, прафесар БДУ Анатоль Галаўко зрабіў вывад, што палажэнні гэтага закона не адпавядаюць 3, 37, 38, 117, 119 і 121 артыкулам Канстытуцыі. На яго думку, скасаванне мясцовых Саветаў пярвічнага ўзроўню пазбаўляе шэраг грамадзян права ўдзельнічаць у вырашэнні дзяржаўных спраў непасрэдна і праз сваіх прадстаўнікоў. Увядзенне жорсткай сістэмы дзяржаўнага кіравання, паводле яго слоў, не будзе садзейнічаць выхаду рэспублікі з эканамічнага і палітычнага крызісу.

Паводле заключэння кафедры гісторыі дзяржавы і права Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта, гэты закон парушае правы чалавека, пераразмяркоўвае паўнамоцтвы прадстаўнічых органаў улады на карысць выканаўчай улады, супярэчыць Канстытуцыі, што парушае ўстаноўленую сістэму органаў самакіравання, а таксама не адпавядае агульнапрызнаным нормам міжнароднага права. «Асобныя нормы закона не зусім адпавядаюць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь» — такое заключэнне зрабіў дэкан факультэта права Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта Валянцін Бараўцоў.

З гэтымі вывадамі не згадзіліся афіцыйна запрошаныя асобы, якія выступілі ў Канстытуцыйным судзе: міністр юстыцыі Валянцін Сукала, віцэ-прэм"ер Віктар Ганчар, старшыня Гаспадарчага суда Уладзімір Бойка, афіцыйны прадстаўнік прэзідэнта Леанід Сініцын. Міністр юстыцыі звярнуў увагу Канстытуцыйнага суда на тое, што ў экспертных заключэннях не былі дадзены асноўныя адказы на пытанне: у чым і як былі парушаны нормы Канстытуцыі, калі трактаваць іх строга па літары закона.

Паводле слоў Віктара Ганчара, галоўны вывад, які можна зрабіць у ходзе судовага разбору, заключаецца ў тым, што заканадаўчая база, на жаль, адстала ад канстытуцыйнага працэсу. Узбудзіўшы справу, Канстытуцыйны суд, на яго думку, не выкарыстаў класічны выхад з данай сітуацыі, прадаставіўшы тлумачэнне Канстытуцыі непасрэдна Вярхоўнаму Савету. Віцэ-прэм"ер прывёў шэраг доказаў на карысць адпаведнасці норм закона і Канстытуцыі.

Паводле слоў Леаніда Сініцына, пытанне заключаецца ў тым, што ў даным выпадку разглядаецца адна з важнейшых праблем дзяржавы — праблема радыкальнага рэфармавання мясцовай улады ў рамках дзеючай Канстытуцыі. З унясеннем паправак у Закон аб мясцовым самакіраванні пачаўся першы этап рэфармавання мясцовай улады. Ён паведаміў, што, уносячы гэтыя змяненні ў дзеючае заканадаўства, прэзідэнт прапанаваў законным, цывілізаваным шляхам рэалізаваць у адпаведнасці з артыкулам 100 Канстытуцыі сваё права на стварэнне сістэмы выканаўчай улады як у цэнтры, так і на месцах. Леанід Сініцын звярнуў увагу Канстытуцыйнага суда на тое, што сутнасць паправак Аляксандра Лукашэнкі заключаецца ў тым, каб, захаваўшы за мясцовымі Саветамі іх канстытуцыйныя правы ў галіне праграм эканамічнага і сацыяльнага развіцця, мясцовых бюджэтаў, мясцовых падаткаў і збораў, у той жа час даць выканаўчым камітэтам большыя магчымасці ў сферы рэалізацыі гэтых правоў мясцовых Саветаў. «Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, зыходзячы з неабходнасці рэалізацыі адпаведных артыкулаў Канстытуцыі, вызначыў найбольш прымальны варыянт спалучэння дзяржаўнага і мясцовага самакіравання ў адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінках», — сказаў Леанід Сініцын.

З заключным словам выступілі прадстаўнікі бакоў — дэпутат Вярхоўнага Савета Віктар Піскароў і кіраўнік юрыдычнага аддзела Сакратарыята Вярхоўнага Савета Уладзімір Барысенка.

Затым Канстытуцыйны суд пайшоў для прыняцця рашэння ў дарадчы пакой.

У 16 гадзін старшынствуючы — намеснік старшыні Канстытуцыйнага суда Валерый Ціхіня аб"явіў заключэнне Канстытуцыйнага суда. Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь прызнаў, што нормы Закона ад 6 кастрычніка, якія прадугледжваюць скасаванне Саветаў пярвічнага ўзроўню, не адпавядаюць Канстытуцыі. Гэтыя нормы страчваюць сілу з моманту прыняцця Канстытуцыйным судом данага рашэння. Вярхоўнаму Савету прапанавана ўнесці змяненні ў заканадаўства ў адпаведнасці з цяперашнім заключэннем.

Разгледзеўшы прапановы групы дэпутатаў аб прызнанні неадпаведнымі Канстытуцыі норм закона, што ўстанаўліваюць іншы парадак фарміравання выканаўчых камітэтаў абласнога і базавага ўзроўняў, Канстытуцыйны суд лічыць, што зрабіць вывад аб неканстытуцыйнасці ўказаных норм не ўяўляецца магчымым.

Заключэнне Канстытуцыйнага суда ўступае ў сілу з дня яго прыняцця, з"яўляецца канчатковым і абскарджанню не падлягае.

*Ларыса ЛАЗАР, БЕЛІНФАРМ.*

■ С юбилеем!

*И.Е.Поляков:*

# "СЧАСТЬЕ — БЫТЬ ХОЗЯИНОМ СВОЕЙ СУДЬБЫ"

**Человек, с которым я веду беседу, — живая история республики. Он много видел, много пережил и много сделал для нашей страны. Рано начал зарабатывать на хлеб насущный, в годы минувшей войны возглавлял подпольную комсомольскую организацию, объединявшую в своих рядах более 200 групп, потом стал комиссаром партизанской бригады.**

**Отгремели бои. Комсомольский и партийный работник на передовых рубежах новостроек, семь лет руководит Гомельской областной организацией КПБ, более четырнадцати — Минской. В 1977 году был избран Председателем Президиума Верховного Совета БССР. Депутат Верховного Совета СССР многих созывов. Герой Социалистического Труда, награжден орденами и медалями. Вот такие жизненные вехи Ивана Евтеевича Полякова. Он любезно согласился ответить на мои вопросы.**

*(Окончание на 2-й стр.)*

## У ВОБЛАСЦІ – КАМІСІЯ ПРЭЗІДЭНЦКАЙ АДМІНІСТРАЦЫІ

З аўторка ў вобласці працуе камісія Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па вывучэнню работы мясцовых органаў дзяржаўнага кіравання. Разглядаецца дзейнасць упраўленняў і аддзелаў аблвыканкома, абласных ведамстваў. Арганізуецца таксама прыём грамадзян.

## *ДА ВЕДАМА НАСЕЛЬНІЦТВА МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ*

25 лістапада 1994 г. у памяшканні аблвыканкома (г. Мінск, вул. Энгельса, 4, каб. №213) з 10 да 17 гадзін будзе весціся прыём грамадзян прадстаўнікамі камісіі Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, якая працуе ў Мінскай вобласці, кіраўніцтвам аблвыканкома.

Даведкі па тэлефоне: 27-86-03.

## У БАРАЦЬБЕ СА "ЗМЕЕМ" ПЕРАМАГАЕ "ЗМЕЙ"

Як памятаем, перабудова пачалася з барацьбы з п"янствам. Завяршылася барацьба не толькі пераканаўчай перамогай п"янства, але і разбурэннем магутнай краіны — СССР. Адначасова была паралізавана айчынная вінна-гарэлачная вытворчасць і адкрыты шлюз для замежных спіртных вырабаў.

Мала таго што піць пачалі без падставы ды меры, дык і амаль з дашкольнага ўзросту. Прыкметна ўзрасла колькасць алкагольных атручэнняў. Паводле даных таксікалагічнага аддзялення бальніцы хуткай дапамогі г.Мінска, рост атручэнняў складае за апошні час 146 працэнтаў. У асноўным атручэнні выкліканы нізкай якасцю алкагольных напояў. Як правіла, сурагаты алкаголю завозяцца з-за межаў рэспублікі. Ахвярамі сурагатных атручэнняў часцей за ўсё становяцца людзі працаздольнага ўзросту.



# Рыса беднасці — 54.902 рублі

**Зараз мы многа чуем аб сацыяльнай абароне насельніцтва, адрасным аказанні дапамогі маламаёмным людзям. А хто ж падпадае пад гэтую катэгорыю? Усё залежыць ад сярэднедушавога мінімальнага спажывецкага бюджэту. Міністэрства працы рэспублікі вызначыла яго для кожнай сям'і ў разліку на месяц (пастанова ад 31 кастрычніка 1994 года, №107).**

І вось што мы маем у рублях для:

| | |
|---|---|
| сям'і з чатырох чалавек | 119.075 р. |
| мужчыны працаздольнага ўзросту | 140.459 |
| жанчыны працаздольнага ўзросту | 138.278 |
| маладой сям'і з дваімі дзецьмі | 117.164 |
| маладой сям'і з адным дзіцем | 125.999 |
| сям'і пенсіянераў | 97.794 |
| мужчыны-пенсіянера | 114.971 |
| жанчыны-пенсіянеркі | 109.793 |
| студэнта | 110.401 |
| студэнткі | 108.212 |
| дзяўчынкі да трох гадоў | 89.617 |
| хлопчыка да трох гадоў | 88.888 |
| дзяўчынкі ад трох да шасці гадоў | 106.225 |
| хлопчыка ад трох да шасці гадоў | 107.625 |
| дзяўчынкі ад шасці да чатырнаццаці гадоў | 116.851 |
| хлопчыка ад шасці да чатырнаццаці гадоў | 118.108 |
| дзяўчыны ад чатырнаццаці да васемнаццаці гадоў | 133.997 |
| юнака ад чатырнаццаці да васемнаццаці гадоў | 147.150 |

Гэтыя спажывецкія мінімальныя бюджэты разлічаны ў цэнах, якія склаліся ў верасні з улікам усіх відаў гандлю — дзяржаўнага, спажывецкай кааперацыі, камерцыйнага, калгаснага рынку. Мінімальныя бюджэты выраслі за трэці квартал у параўнанні са станам на 1 ліпеня ў 2,4 — 2,6 раза дзякуючы росту цэн. Расходы ж на харчаванне вагаюцца ў межах 52-67 працэнтаў (у жанчыны-пенсіянеркі — 49,5).

Як сведчыць наш уласны вопыт, гэты мінімальны спажывецкі бюджэт слаба падмацоўваецца рэальнымі грашыма. Сярэднямесячная зарплата работнікаў народнай гаспадаркі вобласці (без камерцыйных структур) склала ў верасні 100.814 рублёў. Гэта ў цэлым. Калі ж браць паасобку яе галіны, то малюнак яшчэ больш змрочны. Вось, напрыклад, у работнікаў бытавога абслугоўвання насельніцтва выходзіць 54.104 рублі. Не больш і ў сацыяльнага забеспячэння — 65.746, культуры — 68.265, навукі і навуковага абслугоўвання — 74.561 і г.д.

Як бачым, наша сярэднямесячная зарплата не дацягвае да мінімальнага спажывецкага бюджэту. А як быць тым, хто апынуўся за рысай беднасці? Да маламаёмных адносяцца грамадзяне, якія маюць грашовы даход у памеры 60 працэнтаў сярэднедушавога сярэднямесячнага мінімальнага спажывецкага бюджэту сям'і з чатырох чалавек. За трэці квартал ён склаў 91.503 рублі на аднаго члена сям'і. 60 працэнтаў ад яе раўняецца 54.902 рублям.

Вось яна, афіцыйна вызначаная рыса беднасці — гэтая норма дзейнічае да студзеня 1995 года. Фактычна ж яна большая на столькі працэнтаў, на колькі падаражалі ў кастрычніку і лістападзе тавары: афіцыйна — не больш чым на 20 працэнтаў.

Той, хто зарабляе не больш чым 54.902 рублі, можа звярнуцца ў райвыканком ці ў камісію па выяўленню і ўліку маламаёмных грамадзян і аказанню ім дапамогі. Там параяць запоўніць дэкларацыю аб даходзе сям'і. І толькі пасля праверкі даходаў і матэрыяльна-бытавых умоў жыцця аказваецца на пэўны перыяд часу сацыяльная дапамога. Канкрэтны яе від вызначаецца камісіяй з улікам сродкаў, якія маюцца ў яе распараджэнні, а таксама пажаданняў людзей, што звярнуліся за дапамогай.

*Пётр СІДАРОВІЧ.*

■ У люстэрку статыстыкі

# *З ДЗІЦЯЧЫМІ САДАМІ — ПОЎНЫ ПРАВАЛ*

Бедныя дзеці! Хацелася б ім пайсці ў садзік, пагуляць разам са сваімі аднагодкамі. Вось толькі дарослыя дзядзечкі не хочуць іх пасяляць ва ўтульныя, прыгожа афармленыя памяшканні. Сіл ці ўмення не хапае ў будаўнікоў своечасова здаць запланаваныя будынкі? Вунь у калгасе імя Леніна Стаўбцоўскага раёна ўзяліся яны ў 1989 годзе за сад на 50 месц. З інвестыцыйнага фонду аграпрамысловага комплексу выдзелілі 16 мільёнаў рублёў. Асвоілі ж толькі 10 мільёнаў — 63 працэнты гадавога ліміту. Можа, да новага года і справяцца з аддзелкай і сантэхнічнымі работамі.

Ва ўсякім разе хацелася б верыць гэтаму. Як і таму, што закончыцца будаўніцтва дзіцячага сада на 90 месц у калгасе імя Дзяржынскага Маладзечанскага раёна. Бо з дашкольнымі ўстановамі па вобласці поўны правал. Сёлета іх патрэбна здаць у эксплуатацыю на 2.065 месц, а фактычна ўвялі за дзесяць месяцаў дзіцячых садоў на 140 месц — 7 працэнтаў ад запланаванага.

Не радуюць і тэмпы будаўніцтва жылля. Яшчэ ў другім квартале павінны справіць наваселлі маладзечанцы ў 39-кватэрным доме, а ён і па сённяшні дзень не гатовы. Для тых, хто пацярпеў ад аварыі на ЧАЭС, павінны здаць сёлета 351 кватэру, а за дзесяць месяцаў іх аказалася гатова толькі 158.

Што датычыць будаўніцтва жылля за кошт усіх крыніц фінансавання (без індывідуальных забудоўшчыкаў), то прадугледжваецца ўвесці ў эксплуатацыю 603,7 тысячы квадратных метраў жылля. Фактычна ж за дзесяць месяцаў здадзена 154 тысячы (2.602 кватэры) — 26 працэнтаў гадавога плана. Бясспрэчна, шэраг дамоў так і не прымуць жыхароў.

Поўны правал і з будаўніцтвам бальніц і амбулаторна-паліклінічных устаноў. Хаця тут і асвоена 82 працэнты гадавога ліміту капітальных укладанняў, а вось здадзена ў эксплуатацыю іх толькі 6 працэнтаў ад запланаванага.

*Фаіна ЭЛЕНТУХ, супрацоўнік аблупраўлення статыстыкі.*

-50-

# ПАДПОЛЬШЧЫКІ СТАРАЖОЎСКАЙ ХЛЕБАПЯКАРНІ

**А**РГАНІЗАТАРАМ гэтай падпольнай групы быў афіцэр Чырвонай Арміі Васіль Міхайлавіч Бачароў. У ліпені 1941 г., страціўшы ў баях сваіх таварышаў, ён, пераапрануты ў цывільнае, прыйшоў у акупіраваны немцамі Мінск. У першы ж дзень пазнаёміўся з сям"ёй Гвяздоўскіх, якая дапамагла яму ўладкавацца ў горадзе. З лагера "ДраздЫ", пасля двух тыдняў знаходжання там, дадому вярнуўся Франц Гвяздоўскі, пекар па прафесіі.

Калі гарадская ўправа, створаная немцамі, вырашыла адкрыць на Старажоўцы пякарню, Ф.Гвяздоўскі ўзяў туды на працу В.Бачарова, а таксама яшчэ некалькі былых ваеннаслужачых, што «ператварыліся» ў цывільных асоб. Настроеныя патрыятычна, яны ў хуткім часе аб"ядналіся ў падпольную групу. Першымі ў яе склад увайшлі В.Бачароў, Ф.Гвяздоўскі, Т.Гвяздоўская, В.Сакалоў, С.Цюцюннік, П.Лычак, Р.Кальчанка, Я.Дробат, Г.Калтун. Пазней у групе налічвалася каля 20 чалавек. Ядро арганізацыі складалі былыя ваеннаслужачыя. Амаль усе яны ўдзельнічалі ў першых баях з гітлераўцамі, паспыталі акружэння ды лагераў і цану фашызму ведалі добра.

Як і шмат хто з іншых патрыётаў, пачалі з радыёпрыёмніка — патрэбны былі звесткі аб падзеях на фронце, у краіне і свеце. Знайсці спраўны прыёмнік дапамагла жонка камандзіра Чырвонай Арміі Соф"я Белік, якая жыла ў Мінску і ўвайшла ў склад групы. Радыё перанеслі і тайна ўстанавілі ў адным з пакояў жаночага інтэрната пякарні — там, дзе жыла Г.Калтун. Разумеючы небяспеку, радыёпрыёмнік схавалі ў яму пад падлогай пакоя, зверху паставілі шафу, дно якой пры неабходнасці лёгка здымалася. Збіраліся, слухалі савецкія перадачы, запісвалі пачутае. Так нараджаліся першыя лістоўкі, якія ноччу расклейвалі ў горадзе.

Хлеб у той час быў найважнейшай жыццёвай патрэбай. Пакуль немцы не наладзілі дасканалы ўлік, Старажоўская пякарня змагла аказаць дапамогу шмат каму з галадаючых мінчан. Знаходзілі выхад і пасля. Пры выпечцы хлеба для горада, а таксама для нямецкіх часцей падчас іх перадыслакацыі бясплатна раздавалі боханы галодным дзецям — яны з мацяркамі заўсёды стаялі каля варот пякарні.

Падтрымлівалі сувязь з вядомымі мінскімі падпольшчыкамі І.Х.Казловым, І.К.Кабушкіным, якія мелі выхад на Мінскі падпольны гарком КП(б)Б, з групай савецкіх афіцэраў, што дзейнічала ў горадзе на чале з У.І.Нічыпаровічам, збіралі для іх разведвальную і іншую інфармацыю.

Хутка ў групе з"явілася і асабістая зброя. Запасаліся боепрыпасамі. Ведаючы, што за кожнага забітага на вуліцах горада немца пацерпяць, заплацяць жыццём дзесяткі заложнікаў, індывідуальным тэрорам не захапляліся. Знішчылі толькі некалькі здраднікаў, паліцэйскіх. Васіль Сакалоў, Рыгор Кальчанка і Сямён Цюцюннік арганізавалі крушэнне нямецкага воінскага эшалона. Яны ж восенню 1941 г. перарэзалі 18 шматжыльных кабеляў сувязі гітлераўцаў.

З-за адсутнасці пашпартоў Васіль Бачароў і Васіль Сакалоў неўзабаве былі звольнены з пякарні. З дапамогай знаёмых яны ўладкаваліся на працу ў 2-ю бальніцу, дзе ўстанавілі цесныя сувязі з падпольшчыцай В.Ф.Рубец. Разам з ёю, іншымі патрыётамі, што дзейнічалі ў бальніцы, забяспечвалі ваеннаслужачых, якія знаходзіліся там на лячэнні, дакументамі, адзеннем, легалізоўвалі ў горадзе, выводзілі ў лес. Тут і ў іншых месцах, выкарыстоўваючы сувязі, група здабывала медыкаменты. На выпадак правалу і арышту, ведаючы, якія здзекі і катаванні чакаюць трапіўшых у СД і гестапа, В.Ф.Рубец забяспечыла частку падпольшчыкаў ядам. Гэтыя малыя ампулы шмат хто зашыў у адзенне і пастаянна насіў з сабой.

Прымаліся захады па выратаванню яўрэйскіх дзяцей. Н.І.Трубінок, С.Л.Белік, якія працавалі ў дзіцячым доме-прыёмніку, калі ўзнікала небяспека, перадавалі з дзетдома маленькіх яўрэяў у сем"і беларусаў, рускіх, хавалі.

Ваеннаслужачыя, якія ўвайшлі ў склад групы і не былі звязаны з сям"ёю, гаспадаркай і г.д., рыхтаваліся пайсці ў партызаны. У снежні 1941 г. частка групы гэты намер здзейсніла: у атрад У.І.Нічыпаровіча ўвайшлі В.Бачароў, В.Сакалоў і іншыя былыя вайскоўцы. Засталіся ў горадзе і працягвалі работу Ф.Гвяздоўскі (кіраўнік групы), І.Гвяздоўская, Г.Калтун, А.Глымбоцкая, С.Белік, С.Чысцякоў, Я.М.Кульбакова, І.Шчуплоў і іншыя. Дзейнасць групы, як арганізацыйнай адзінкі, перапынілася ў маі 1943 г., калі фашысцкія спецслужбы здолелі выйсці на Франца Гвяздоўскага. Ён быў арыштаваны, нікога не выдаў, вытрымаўшы ўсе катаванні, і пакараны смерцю ў Трасцянцы.

Неўзабаве загінуў і Васіль Сакалоў. Ён стаў партызанскім разведчыкам, неаднойчы прабіраўся ў Мінск, аднаўляў сувязі з падполлем, выконваў іншыя заданні. У лютым 1942 г. В.Сакалоў быў схоплены паліцаямі ў Смілавічах. Яго трымалі ў Рудзенскім СД, потым накіравалі ў Мінск. Гітлераўцы спадзяваліся з яго дапамогай выйсці на іншых патрыётаў, падпольшчыкаў горада. Аднак іх надзеі былі марнымі.

У сваіх пасляваенных успамінах Я.М.Кульбакова, якая ўваходзіла ў склад групы Старажоўскай хлебапякарні, аб гэтым піша так: «Аднойчы да мяне прыбегла Вікторыя Рубец і паведаміла, што Васю арыштавалі немцы і арыштаванага водзяць па вуліцах альбо возяць прывязанага на санках, каб хтонебудзь яго апазнаў. Папярэдзіла, каб я яго не пазнавала. Я з Вікторыяй у той жа дзень убачыла яго. Было гэта каля нашага дома. Вялі яго два агенты гестапа. Вася ішоў наперадзе, а гестапаўцы ззаду ішлі, разглядваючы твары сустрэчных. Праходзячы каля нас, Вася рэзка апусціў галаву ўніз, даў зразумець, каб яго не закранулі. Твар яго быў увесь чорны і распухлы ад пабояў...»

Гітлераўцы так і не здолелі нічога дабіцца ад Сакалова. Дваццацічатырохгадовага лейтэнанта, які застаўся верны Радзіме, не парушыў прысягу, фашысты павесілі на Суражскім кірмашы 7 мая 1942 г.

*Уладзімір КУЗЬМЕНКА,*
*кандыдат гістарычных навук.*

■ Взгляд на проблему

# ПАТРИОТИЗМ — ЧУВСТВО СВЯТОЕ

## Не уничтожить бы его в молодых душах коммерциализацией

***Молодежь в обществе. Чем живет она в наше тяжелое время? Отказавшись от прежней молодежной политики, государство пока не выработало новых направлений, приоритетов в этом важном деле. Результат этого — духовная деградация части молодых людей, неудержимый рост преступности среди подростков, другие негативные явления. Небезразличен к ним бывший первый секретарь Солигорского горкома комсомола, член постоянной депутатской комиссии горсовета по делам молодежи, физической культуре и спорту, заместитель начальника управления механизации и спецработ № 108 Э.Э.Савицкий. С ним беседует наш внештатный корреспондент.***

**— Эдуард Эдуардович, что вы можете сказать о молодежной проблеме?**

— Работа с молодежью в городе практически не ведется, она в последние два-три года попросту заглохла. Существует райком комсомола во главе с Дмитрием Яненко, но его влияние на молодежь очень и очень слабое. Комсомольская организация объединяет в своих рядах 15 человек. Это мизер. Каких-либо молодежных объединений, клубов в городе нет. Я не ретроград и хорошо понимаю, что жизнь, взгляды на нее, идеология изменились.

**— Не все старые формы работы с молодежью были плохими...**

— Согласен с вами. Вспомнить хотя бы деятельность молодежных кафе «Веснянка», клубов отдыха учащихся горно-химического техникума «24 карата» во главе с неутомимым и талантливым культпросветработником Г.Карака, старшеклассников города во Дворце культуры. Сюда тянулась молодежь, культурно и содержательно проводила свой досуг — организовывала интересные вечера, встречи, чествовала лучшие молодежные производственные коллективы.

**— Что осталось от этого и многого другого?**

— Практически ничего. Работает только городской туристический клуб в структуре экскурсионного бюро, проводятся туристические слеты. Да и те неполноценные. Последний, например, собрал только шесть команд — представителей предприятий города. Раньше в них участвовали все производственные коллективы, худо-бедно решали вопросы трудоустройства молодежи, ее профессиональной подготовки, физического развития... Сейчас об этом приходится только вспоминать.

**— Прошлое не вернешь. И все-таки, что необходимо сделать, чтобы сдвинуть с мертвой точки решение этой проблемы?**

— Прежде всего возобновить организацию молодежных жилищных кооперативов. Тогда нам удалось составить списки молодых людей, нуждающихся в жилье, собрать деньги и построить один дом. Ребята сами трудились на его возведении. Увы, хорошее, полезное дело в самом начале было загублено.

Неплохо, на мой взгляд, работал городской культурно-спортивный комплекс во главе с бывшим заместителем председателя горисполкома В.Е.Гуком. Все спортсооружения, спортзалы школ были задействованы под соревнования, занятия спортивных секций. Вечерами в осенне-зимний период сюда невозможно было попасть, тем более в плавательный бассейн детского центра творчества.

Спортивные мероприятия проводились в комплексе с культурно-массовыми. Не все в их организации было гладко, но молодежь в своем большинстве жила интересной жизнью. Добрым словом вспомним и фестивали эстрадной песни молодежных эстрадных коллективов «Юность Полесья». В Солигорск съезжались на музыкальные смотрины десятки ансамблей региона, даже с Украины. Ведь подобные мероприятия зародились в нашем городе. У нас они затухли, но нашу инициативу подхватили в последние годы Молодечно и Витебск, и смотрите, на какую высоту они подняты!

Считаю недопустимым и развал городского совета бывших воинов-афганцев. Совет много делал в деле организации помощи интернационалистам, собирал средства, подарки для семей погибших, проводил значительную патриотическую работу. Память об афганцах, их подвиге заставляет нас возобновить деятельность этой общественной организации, она многое может сделать в воспитании у молодежи патриотизма, любви к Родине. Меркантильность, коммерциализация, которые охватили общество, не должны уничтожить это святое чувство.

Еще одна проблема — организация общегородских спортивных соревнований. Они теперь проводятся редко. Забыто традиционное молодежное первенство по лыжным гонкам на призы нашей землячки, бывшей фронтовой связистки, Героя Советского Союза Елены Стемпковской, собиравшее много молодежи. Так молодые люди скоро и забудут о Лене, ее подвиге в годы войны.

**— Но есть же в горисполкоме отдел по делам молодежи, постоянная депутатская комиссия, членом которой Вы являетесь.**

— Заведующей этого отдела не с кем работать, нет поддержки на местах, нет структурных подразделений на предприятиях. Не получилось у нее с организацией молодежного казино в помещении бывшего кафе — подвели коммерсанты. Самоустранилась от работы и депутатская комиссия по делам молодежи. В этом есть и доля моей вины. Занятость на работе не оставляет времени на общественные дела, хотя от поручений комиссии я не отказываюсь.

**— И все же, есть ли свет в конце тоннеля?**

— Необходима государственная молодежная политика, приоритетные направления в ней. Надо в связи с этим сохранить в структуре правительства и Комитет по делам молодежи как самостоятельную структуру.

В нашем городе есть люди, которые хорошо понимают значение работы с молодежью. Это руководители треста «Шахтспецстрой» и производственного объединения жилищно-коммунального хозяйства «Комплекс» В.Н.Старцев и Б.А.Кричмар, где немало делается по организации молодежного досуга, спорта. Это вселяет надежду, оптимизм.

*Беседу записал*
*Анатолий ПАНАСЕНКО,*
*зав.отделом городской газеты "Солигорский вестник".*

# ДЗЕВЯЦЬ ТЫСЯЧ ПУЦЁВАК У ЖЫЦЦЁ

Нядаўна сваё 25-годдзе адзначыла Мінскае кааператыўнае вучылішча. За гэты час у яго сценах было падрыхтавана каля 9 тысяч спецыялістаў, якія зараз працуюць у сістэме спажывецкай кааперацыі рэспублікі. Сярод іх — старшыня Маладзечанскага райспажыўсаюза Галіна Крывая, намеснік начальніка ўпраўлення кадраў і кааператыўнай работы Мінскага аблспажыўсаюза Яніна Сукала і іншыя.

Сёння ў вучылішчы па накіраваннях райспажыўсаюзаў займаюцца 250 чалавек. Яны авалодваюць прафесіямі прадаўцоў прамысловых і харчовых тавараў і афіцыянтаў-буфетчыкаў. У навучальнай установе створаны нядрэнныя ўмовы для высакаякаснай падрыхтоўкі спецыялістаў, усе іншагародныя навучэнцы пражываюць у добраўпарадкаваным інтэрнаце.

**НА ЗДЫМКАХ:** ідуць заняткі ў вучэбна-трэніровачным магазіне; дырэктар комплексу «тэхнікум-вучылішча» Уладзімір **Басаў** з навучэнцамі групы № 22 у музеі спажывецкай кааперацыі; староста групы № 4 Таццяна **Карзюк**; будучыя прадаўцы прамысловых і харчовых тавараў (злева направа) Лідзія **Лёсік**, Іна **Камілаўніна**, Вольга **Казуля**, Наталля **Сапсуева**.

*Фота Анатоля БАСАВА.*

■ Народныя таленты

# ПЕСНІ І КАРАГОДЫ

## НЕ ВЫХОДЗЯЦЬ З МОДЫ

**Фальклорны ансамбль «Вілякі» створаны дзесяць гадоў таму назад. За гэты час калектыў неаднаразова з"яўляўся лаўрэатам раённых, абласных і рэспубліканскіх аглядаў-конкурсаў дзіцячай мастацкай самадзейнасці. Мастацкім кіраўніком яго працуе выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь, настаўніца музыкі і рытмікі Вілейскай школы-інтэрната Зінаіда Васільеўна Крупская.**

На канцэртах «Вілякі» вылучаюцца яркай, каларытнай, народнай манерай выканання. У рэпертуары юных артыстаў народныя песні, правераныя і выпрабаваныя часам, адшліфаваныя ў сэрцах і вуснах тысяч безыменных майстроў. Гэта — «Ой, хадзілі сватове», «Раззелянеўся дубачок», «Пойдзем, пойдзем лугам», «Лятаў салавей па садзе» і многія іншыя. Прыемна адзначыць і тое, што музыку да многіх твораў, якія выконваюцца на сцэне, напісала мастацкі кіраўнік З.В.Крупская. Чалавек яна здольны, добра валодае сакрэтамі музычнага мастацтва. У гэтым пераконваешся, калі прысутнічаеш на канцэртах, дзе выконваюцца танцы і карагоды, музыку для якіх стварыла Зінаіда Васільеўна. А іх нямала. Гэта і «Добры дзень у хату», і «Камарыха», і «Гусакі», і «Вілятка», і «Танец дудароў», і «На вуліцы гоман, гоман».

— Дзе б ні была, дзе б ні падарожнічала, заўсёды адчуваю, што наша родная Бацькаўшчына спавітая чароўнымі мелодыямі песень і танцаў. Вясёлыя і сумныя, жартоўныя і працяжныя, яны дапамагаюць людзям захаваць высокую духоўнасць. Таму і раблю ўсё неабходнае, каб гэты неацэнны скарб паспяхова перадаваўся з пакалення ў пакаленне, — зазначыла З.В.Крупская.

Днямі рэдакцыі паведамілі з абласнога цэнтра народнай творчасці, што дзіцячаму фальклорнаму ансамблю «Вілякі» прысвоена званне «ўзорны калектыў мастацкай самадзейнасці».

■ Верить — не верить?

# ЕСЛИ БУДЕТ НОВЫЙ ВСЕМИРНЫЙ ПОТОП

## Профессор К.Аширов — об еще одной реальной опасности, которая в будущем, по его мнению, грозит человечеству

На Шпицбергене когда-то росли пальмы. В пределах Полярного круга водились не только мамонты, но и крокодилы. А на территории Франции — северные олени... Факты в общем-то известные, ибо со школьной скамьи каждый знает, что климат планеты Земля менялся: то оледенения, то потепления... Но почему это происходило? Проанализировав массу фактов, самарские ученые К.Аширов и Т.Боргест пришли к ошеломляющему выводу: Земля периодически «кувыркается». По их мнению, не за горами очередной «кувырок», который грозит неминуемой, если не подготовиться, гибелью всей человеческой цивилизации.

А теперь — данные в пользу этой гипотезы.

В пределах трех-трех с половиной миллиардов лет назад каждая точка на экваторе вращалась вокруг земной оси в двенадцать раз быстрее, и сутки продолжались всего два часа. За счет высокой центробежной силы произошел отрыв части поверхности Земли. Образовалась Луна. Совокупность данных о лунной массе, строении, химическом составе свидетельствует о том, что единственный спутник Земли — ее «кровный» сын. Или, скорее, «дочь». На месте впадин, образовавшихся в результате отрыва Луны, возникли океаны.

Под влиянием лунных приливов вращение планеты замедлялось, а вода с огромной поверхности океанов стала испаряться и выпадать в приполюсных районах в виде снега, который со временем превращался в лед. Следы ледников находят даже в окрестностях Шанхая, Каира и других южных городов. Образоваться в районе Северного полюса и затем спуститься почти к экватору они не могли. Ведь для возникновения ледников нужна суша, а не поверхность теперешнего океана. И слишком серьезные препятствия встали бы на пути ледников в той же Европе. Взять хотя бы скандинавскую прибрежную горную цепь. Объема льда, который предположительно мог бы сползти с территории Северного полярного круга, тоже явно не хватило бы для такой огромной площади. Напрашивается вывод: Северный полюс был в другом месте, на одном из материков, а в районе Шпицбергена и других теперешних арктических островов бушевали тропические леса. Подтверждение тому — залежи нефти, открытые за последние годы на шельфе арктических морей. Ведь для формирования нефтеносных слоев нужен, по словам академика Вернадского, «взрыв жизни».

Были тропики и на территории теперешней Антарктиды. По данным палеодендролога Э.Тейлора, на горе Ачернар обнаружены деревья, годичный прирост толщины колец которых очень близок к тропическому. А Южный полюс в то время находился где-то на территории Аргентины.

Когда уровень океана за счет испарений понижался более чем на сто метров, а ледяные шапки полюсов достигали критических объемов, равновесие планеты нарушалось — и полюса перемещались на экватор. В одних регионах наступало оледенение, в других — бурное таяние льдов. Может быть, библейский всемирный потоп — итог очередного «кувырка» планеты? Ведь последнее оледенение завершилось не так уж давно — в пределах примерно десяти тысяч лет назад.

Немецкий гляциолог Эндрю Рамсей считает, что очередное оледенение начнется через пятьдесят тысяч лет. Но доктор геолого-минералогических наук, профессор Самарского технического университета К.Аширов и старший научный сотрудник Т.Боргест пришли к выводу, что уровень океанов уже понижен на сто метров и накопленного льда достаточно для очередного «кувырка». Наверняка не все ученые согласятся с таким выводом. По расчетам известного исследователя этой проблемы И.Суетовой, в периоды максимальных оледенений льда на полюсах было почти в четыре раза больше, чем сейчас. Но ведь и вращение Земли, а значит, и центробежные силы, которые удерживают планету, стали гораздо слабее.

— Я считаю, что человечеству в будущем грозит реальная опасность, — утверждает Аширов...

А если Земля действительно «кувыркнется»? Ясно, что изменится климат, но от этой напасти как-нибудь спасемся. Кстати, люди среднего возраста уже отмечают, что климат становится мягче и январские дожди на той же Средней Волге уже не в диковинку. Это, конечно, субъективные оценки, а профессор Аширов опирается на расчеты. И считает, что главная беда придет от таяния льдов. Уровень океана может подняться до шестидесяти метров. К примеру, уровень Волги в районе Самары всего на 29 метров выше уровня моря, а паводки, когда вода поднимается на считанные метры, заливают огромные территории. При всемирном же «паводке» под водой окажутся многие государства Европы и Азии.

Профессор Аширов предлагает объединить усилия ученых, чтобы предотвратить катастрофу. По данным отдела физики Земли управления горных дел Канады, за последние годы северный магнитный полюс переместился на расстояние в триста пятьдесят километров. И продолжает перемещаться со скоростью десять километров в год. А это скорее всего является следствием движения географического полюса. Нельзя исключать, что Земля уже начала очередной катастрофический «кувырок»...

*Валентина НИКОЛАЕВА.*
*"Труд".*

**У многіх раёнах вобласці даводзілася сустракаць загадчыка кафедры рэжысуры народных святаў Беларускага універсітэта культуры, кандыдата гістарычных навук П.А.ГУДА. Запрашаюць яго звычайна тады, калі трэба падрыхтаваць нейкае свята. Чым выкліканы такі выбар? З гэтага пытання і пачалася наша гутарка.**

*Пётр Гуд:*

# ВЕДАННЕ СПАДЧЫНЫ — МОЙ ДУХОЎНЫ СКАРБ

— Я абараніў кандыдацкую дысертацыю "Народныя традыцыі ў сучасных беларускіх святах каляндарнага цыкла". Гэта пакуль у Беларусі адзіная дысертацыя на такую тэму. За свае ўласныя грошы аб"ездзіў літаральна ўсе населеныя пункты нашай рэспублікі, сустрэўся з тысячамі людзей, прысутнічаў на сотнях масавых мерапрыемстваў. І ніколькі не шкадую, бо кожны дзень такіх вандровак прыносіў мне адкрыцці, я зачароўваўся самабытнай народнай творчасцю.

***— Прашу прабачэння за наступнае пытанне, бо яно, на мой погляд, будзе калючае для вас: і вашу дысертацыю на акадэмічных паліцах з"ядуць мышы, альбо што-небудзь з абагульненага, знойдзенага вамі будуць выкарыстоўваць людзі ў сваёй практычнай рабоце?***

— Сапраўды, пытанне калючае, але не ў мой бок вы пусцілі стрэлы. Справа ў тым, што я з"яўляюся рэжысёрам многіх народных святаў, якія праводзяцца ў Беларусі. Быў сааўтарам сцэнарыяў Міжнароднага фестывалю беларускай песні ў Беластоку, двух фестываляў студэнтаў і моладзі ў Маскве, Алімпіяды-80. Я — распрацоўшчык пастановачнай часткі ўсіх рэспубліканскіх святаў духавой музыкі. Ганаруся, што мяне запрашалі праводзіць святы гарадоў: у Маладзечне, калі яму спаўнялася 600 гадоў, Полацку (1125 г.), Кобрыне (700 г.), Бабруйску (550 гадоў) і інш.

У Століне, Валожыне па маіх сцэнарыях праходзілі кірмашы, на Віцебшчыне — Купалле, на Гродзеншчыне — Гуканне вясны, у Мінску — Каляды. У Воранаве наладжвалася свята беларускіх рамёстваў, ва Ушачах быў пастаўлены гукапіратэхнічны спектакль. Дарэчы, першы ў СНД. Ва ўсіх іх выкарыстаны фрагменты з дысертацыі.

***— Пётр Адамавіч, вы, магчыма, валодаеце нейкім патаемным ключыкам, які дапамагае зазірнуць у далёкую даўніну, выцягнуць адтуль на свет божы з"явы, фарбы, рэчы і паставіць іх, вобразна кажучы, на службу сённяшнім людзям.***

— Ніякага ключыка ў мяне няма. Люблю сваю работу. У гэтым, бадай, і ўвесь сакрэт маёй папулярнасці сярод культработнікаў. Ахвотна супрацоўнічаю з імі. Вось і нядаўна Мінскі абласны цэнтр народнай творчасці выпусціў мой метадычны дапаможнік па святкаванню Спаса. Адзін яго экземпляр дару вашай рэдакцыі.

***— Дзякуй.***

— Некалькі маіх сцэнарыяў па правядзенню народных святаў каляндарнага цыкла выдаў цэнтр адраджэння і развіцця беларускай культуры Мінскага гарвыканкома.

***— Многія з іх чытаў. Аргументацыя моцная, прыклады да месца... Несумненна, такія матэрыялы патрэбны, бо ў іх — наша духоўная гісторыя, яе ўдумлівае даследаванне. Без перабольшання скажу: вашы дапаможнікі можна назваць летапісам, які абагульняе жыццёвы вопыт продкаў, іх веды аб навакольным свеце.***

***Вы сказалі, што прысутнічалі ў ролі звычайнага наведвальніка на многіх народных святах, арганізаваных культработнікамі. Ці заўсёды атрымлівалі асалоду ад убачанага ці пачутага?***

— Нярэдка ўцякаць хацелася, каб толькі не быць на такім "мерапрыемстве". Абрады, святы не ствараюцца на пустым месцы, іх карані ідуць глыбока ў мінулае народа. Таму да іх трэба падыходзіць вельмі і вельмі асцярожна, каб не парушыць цэласную аснову, на якой, як на падмурку — дом, трымаецца абрад ці свята. Тут трэба выявіць сапраўды народнае і ачысціць яго ад розных непатрэбных напластаванняў. Безабліччыя сцэнарыі, напісаныя на любы выпадак, думаецца, не толькі непрыдатныя, а нават і шкодныя, бо ў такой тонкай справе адна невялікая неахайнасць у сцэнарыі разбурае агульную карціну. Пры падрыхтоўцы да правядзення народнага свята трэба часцей пытаць у сябе: "Ці прымальнае гэта?", "Ці стане яно блізкім усім нам сёння?", "А як было раней?" і г.д. Найбольшы эмацыянальны настрой выклікаюць тыя мерапрыемствы, у канву якіх уплятаюцца мясцовыя старадаўнія абрады, песні, танцы. Таму арганізатарам вольнага часу насельніцтва трэба глыбей знаёміцца з мінулым свайго краю, ведаць яго гістарычныя падзеі, гістарычныя помнікі, старажытныя збудаванні, курганы, асобныя бітвы ў час войнаў, сялянскія паўстанні, спытаць у жыхароў старэйшага пакалення, ці не склалася ў народзе аб усім гэтым паданне, легенда, песня ці які-небудзь іншы твор. Да гэтага, дарэчы, усіх нас заклікае праграма па адраджэнню нацыянальнай і гістарычнай спадчыны, прынятая ў рэспубліцы.

***— Мы ўжо прызвычаіліся да таго, што ў скверах і парках Мінска, Палацах і Дамах культуры выступаюць вясковыя бабулі. А дзе ж гарадскі фальклор? Ці мо і праўда, што ў гарадах не існавала такога віду народнай творчасці?***

— Не пагаджаюся з такой высновай. За дзевяць стагоддзяў існавання Мінска змянілася шмат пакаленняў гараджан. Кожнае зведала і ціхую правінцыяльную рэчаіснасць, і значныя палітычныя падзеі, і перыядычныя ўздымы эканомікі. Горад наш рос на скрыжаванні самых лютых вятроў гісторыі. Але жыхары яго ніколі не забываліся пра культуру. Звернемся да канкрэтных фактаў. У 1846 годзе акцёр Вяржбіцкі стварыў у сённяшняй нашай сталіцы артыстычную трупу, ад якой бярэ свой пачатак Мінскі гарадскі тэатр. Першая тэатральная зала знаходзілася на Саборнай плошчы ў доме шляхціца Яна Байкова. Крыху пазней пастаноўкі ладзіліся ў ратушным тэатры. 9 верасня 1890 года ўпершыню спектакль паставілі ў спецыяльна ўзведзеным для гэтай мэты будынку. Зараз у ім размешчаны адзін з найбольш вядомых тэатраў Беларусі — Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы.

***— Вашай дасведчанасці ў веданні развіцця мастацтва ў сталіцы нашай рэспублікі нельга не пазайздросціць.***

— Дзякуй за прыемны кампімент. Але ж мы яшчэ не ўсё сказалі. У любога горада свая багатая гістарычная культура. Толькі шкада, што не ўсе яе ведаюць. Нават тыя, што прыйшлі вучыцца ў Беларускі універсітэт культуры. Дзе зарадзіліся феерверкі? У Беларусі. Яшчэ ў 1650 годзе беларускі шляхціц Казімір Семяновіч выдаў у Амстэрдаме першую ў Еўропе манаграфію па піратэхніцы. З"яўленне гэтай кнігі падштурхнула многіх да правядзення феерверкавых спектакляў. Адраджэнне іх надало б нашай сённяшняй культуры нацыянальную асаблівасць і прыгажосць, перакінула б мосцік з далёкай мінуўшчыны ў будучыню. Беларусы не могуць не ганарыцца, што ў першым рускім тэатры, які працаваў у 1672 годзе пры двары цара, большасць акцёраў былі нашы землякі. А адным з арганізатараў гэтага тэатра, як сведчаць дакументы, з"яўляўся Сімяон Полацкі. Далей. Польскі балет у Варшаве створаны на аснове балетных труп Слоніма і Гродна. Першая беларуска-польская опера "Ідылія" напісана жыхарамі Міншчыны кампазітарам Станіславам Манюшкам і пісьменнікам Вінцэнтам Дуніным-Марцінкевічам, прэм"ера яе адбылася ў Мінску ў 1852 годзе.

У маёй памяці шмат захавалася цікавых эпізодаў святкаванняў на гарадскіх вуліцах, пра якія мне расказваў бацька. У дарэвалюцыйны час, напрыклад, на кірмашах у Мінску выступалі цыганы з медзведзянятамі, а мінчук Мацей Цярэшка, дэманструючы сілу, гнуў двухтаўровыя бэлькі на сваёй спіне, ламаў падковы, паднімаў каня, садзіў сабе на рукі шэсць мужчын і доўга круціў іх вакол сябе. Гэта было цікавае відовішча. Ды ці раскажаш аб усім. Правераная і выпрабаваная часам, адшліфаваная ў сэрцах і ў вуснах тысяч безыменных майстроў, беларуская народная творчасць і сёння хораша служыць і будзе служыць людзям добрай волі ў іх імкненні да лепшага. Наш клопат, наш абавязак, каб яна несла людзям высакародныя, прыгожыя і гуманныя ідэі, пачуцці і мары таленавітага, працавітага і гераічнага народа.

***— Пётр Адамавіч, напэўна, многія наведвальнікі святаў, пастаноўку якіх вы ажыццявілі, нічога не ведалі пра чалавека, які прынёс ім весялосць, які пазнаёміў іх з вельмі цікавымі звесткамі пра іх родны край, пра блізкіх землякоў. Чалавек гэты — вы. Таму раскажыце пра сябе.***

— Нарадзіўся ў 1945 годзе ў Мінску. Сваю першую прафесію набыў на абутковай фабрыцы — шыў дзіцячыя пінеткі. Захапіўся мастацкай самадзейнасцю. Заўважылі мяне кіраўнікі тэатра юнага гледача, запрасілі на сталую працу. Затым быў артыстам Адэскага, Украінскага тэатраў музыкі, дзе ажыццявіў сваю першую пастаноўку оперы "Наталка-Палтаўка". Быў і канферансье аднаго з аркестраў Казахстана. Менавіта тады стаў лаўрэатам многіх міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў. І гэта пры тым, што меў за плячыма толькі сярэднюю адукацыю — завочна вучыўся. Атэстат атрымаў у 23 гады.

***— Легенды расказваюць і пра іншыя вашы прафесіі.***

— Ну навошта ж перабольшваць? Хацелася глыбей пазнаць жыццё. Таму і не даваў сабе спакою, ехаў у далёкія далячыні. Працаваў докерам, нафтавіком, рабочым геалагічнай разведкі. І нават быў змеяловам і тыграловам.

***— Як жа вы паспявалі вучыцца?***

— Пры жаданні любыя вяршыні навук можна пакарыць. Паспяхова закончыў рэжысёрскае аддзяленне Харкаўскага інстытута культуры. У 1976 годзе прыехаў у Мінск, дзе прынялі на працу старшым выкладчыкам у сённяшні Беларускі універсітэт культуры. Праз год, як ужо адзначалася, быў залічаны ў аспірантуру акадэмічнага інстытута.

***— І, бадай, апошняе пытанне: якія праблемы, вобразна кажучы, вам спаць не даюць?***

— Іх шмат. Патрэбна больш актыўная дзейнасць па адраджэнню народных святаў, абрадаў, традыцый, старажытнай народна-песеннай творчасці. Беларуская зямля заўсёды славілася сваімі ўмельцамі, выканаўцамі. Адным словам, духоўнае багацце продкаў не павінна памерці. Гісторыя данесла да нас цікавыя формы святкаванняў у гарадах, аб чым я ужо згадваў. Сённяшнія пакаленні людзей іх не ведаюць. А хіба ж мы ўмеем праводзіць эмацыянальныя святы экалагічнай накіраванасці — святы лесу, птушак, кветак, вады? Колькі на іх ні прысутнічаю, усюды — шаблон, павярхоўнасць. Адзін і той жа сцэнарый гуляе па ўсёй рэспубліцы, не ўлічваюцца мясцовыя асаблівасці. Не задаволены я і арганізацыяй святаў народных рамёстваў — тая ж бляклаcць, тое ж механічнае перанясенне аднаго і таго ж у розныя рэгіёны. Не адчуваецца душы на такіх аглядах.

На сучасным этапе вельмі важна да стварэння святочнай культуры прыцягваць дзяцей. Менавіта з іх пачынае фарміравацца беларускасць. Мы абавязаны перадаць новым пакаленням багатую спадчыну нашага народа, яго духоўную прыгажосць, захапляючую гісторыю, яго глыбокія карані. Гэтым самым дапаможам дзецям спасцігнуць сябе, свой народ, абудзіць пачуццё гонару за сябе, за сваю Бацькаўшчыну. Глыбокае веданне спадчыны — духоўны скарб кожнага з нас. Пра іншыя праблемы — іншым разам...

***— Дамовіліся.***

*Гутарыў Уладзімір КОБРЫН.*




## 24 лістапада, чацвер

### Беларускае тэлебачанне

16.10. ТБ—школе. Насельніцтва Беларусі.
16.40. "Бімбат".
17.00. Навіны.
17.10. "Маё каханне, мой смутак". Тэлесерыял.
18.10. Навіны (Гродна).
18.35. Навіны Бі-бі-сі.
19.10. Урокі беларускай мовы.
19.25. Сустрэчы ў Ашмянскай школе-інтэрнаце.
20.05. Кантакт.
20.10. Стоп-кадр.
20.30. Пяць хвілін на жарты.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.40. Пад купалам Сусвету.
21.50. "Комікі". Тэлесерыял.
22.50. "Крок". Задача з некалькімі невядомымі.
23.55. НІКа.
0.10. Дайджэст.
0.20. Рэха "Славянскага базара-94".

### Канал "Астанкіна"

16.50. Свет сёння.
17.00. ...Да 16 і старэйшым.
17.30. Чалавек і закон.
17.45. "ХХ стагоддзе".
18.00. Гадзіна пік.
18.30. "Дзікая Роза". Тэлесерыял.
18.55. Праграма Э.Разанава.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.40. Масква-Крэмль.
21.00. Лато "Мільён".
21.30. "Альфрэд Шнітке і яго сябры". Д/ф.
22.20. "Міф пра Леаніда". Маст. фільм.
0.05. Прэс-экспрэс.

### Канал "Расія"

16.15. "Гледзячы з Ніжняга".
16.55. Жывём і кахаем.
17.10. Будні.
17.50. У свеце аўта- і мотаспорту.
18.20. Пяць хвілін пра добрае жыццё.
18.25. Свая гульня.
19.25. Падрабязнасці.
19.35. "Санта-Барбара". Тэлесерыял.
20.30. Праграма В.Вульфа.
21.05. На палітычным Алімпе.
22.25. Аўтаімгненне.
22.30. Спартыўная карусель.
22.35. "Высокая мода" ў Маскве.
22.45. Ціхі дом.
23.40. Зоркі гавораць.

## 25 лістапада, пятніца

### Беларускае тэлебачанне

8.00. Навіны.
8.10. Пяць хвілін на жарты.
8.15. Дайджэст.
8.25. "Кошчын дом". Мультфільм.
8.40. Аўта-парк.
9.00. ТБ—школе. "Насельніцтва Беларусі".
9.30. "Маё каханне, мой смутак".
10.30. Фільм-канцэрт.
10.50. "Комікі".
11.50. "Бімбат".
12.10. "Дыназаўрыкі".
12.45. "Джон Рос".
13.20. "Пасля 2000 года". Д/ф.
14.15. "Пап-ці TV".
15.00. "Партрэт у доўг".
15.25. "Неруш". Д/ф.
15.35. "Будзь маім сланом". Мультфільм.
15.50. Закон і ты.
16.30. Шукаем ініцыятыўных.
17.00. Навіны.
17.10. Тэквандо ў Беларусі.
17.35. Агарод з вясны да восені.
18.10. Навіны (Магілёў).
18.25. Кантакт.
18.35. Навіны Бі-бі-сі.
19.10. Эканамікст.
19.50. Пяць хвілін на жарты.
19.55. У нас дома. Праграма для сям'і.
20.30. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.40. "Комікі". Тэлесерыял.
22.40. Пад купалам Сусвету.
22.55. НІКа.
23.10. "Расстанемся, пакуль добрыя". Маст. фільм.
0.20. Рэха "Славянскага базара-94".
0.50. Дайджэст.
1.00. Фестываль джаза.

### Канал "Астанкіна"

7.00. Раніца.
8.00. Сарока.
8.25. "Дзікая Роза".
9.00. Агарод круглы год.
9.30. Іграе Смаленскі аркестр рускіх народных інструментаў.
14.00. "Гарачаў і іншыя".
14.25. Хроніка дзелавога жыцця.
14.30. Улада і рэформа.
14.45. Наш прагноз.
15.00. "Не пакідай". Маст. фільм.
16.25. Рок-урок.
16.50. Свет сёння.
17.00. Чалавек і закон.
17.30. Спявае Н.Салахава.
17.40, 20.30. Надвор'е.
17.45. "ХХ стагоддзе". Пеле.
18.00. Бамонд.
18.20. "Дзікая Роза". Тэлесерыял.
18.50. Поле цудаў.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.40. Чалавек тыдня.
21.00. "Вуліцы Сан-Францыска". Тэлесерыял.
22.05. "Погляд" з А.Любімавым.
23.05. Тэлешоу 50х50.
23.50. Прэс-экспрэс.

### Канал "Расія"

7.30. Час дзелавых людзей.
8.00. Навіны Эй-бі-сі.
8.25. Паехалі.
8.35. Без рэтушы.
9.30. Музыка на дэсерт.
9.45. "Санта-Барбара".
10.35. Тэлегазета.
10.40. Сялянскае пытанне.
11.10, 13.20. Дзелавая Расія.
14.00. "Калі ігралі Баха", "Манька". Тэлефільмы.
15.20. Студыя "Рост".
15.50. Там-там навіны.
16.05. Свята кожны дзень.
16.15. Новая лінія.
16.55. "Чорная дзірка". Маст. фільм.
18.40. Відэапаэзія. З.Гіпіус.
18.50. Ніхто не забыты.
19.25. Падрабязнасці.
19.35. "Санта-Барбара". Тэлесерыял.
20.30. Джэнтльмен-шоу.
21.05. "К-2" прадстаўляе.
22.20. Рака часу.
22.35. Аўтаімгненне.
22.30. Спартыўная карусель.
22.35. "Высокая мода" ў Маскве.
22.45. Зоркі гавораць.
22.50. "Бальвізер". Маст. фільм (Германія).

## 8-й канал

### Четверг, 24 ноября

18.00 Мультфильм "Али Баба и сорок разбойников".
18.55 "От Крымского брода до Триумфальных ворот". Док.фильм.
19.20 "Морена Клара". Телесериал.
20.10 БАНТ: "Репортаж".
20.15 К сведению.
20.40 "Шансы". Телесериал.
21.30 Студия "БМ": "Квадракола".
21.50 "Первая встреча, последняя встреча". Худ.фильм.

### Пятница, 25 ноября

18.00 Мультфильм "Али Баба и сорок разбойников".
18.40 СОЛТЭК: "Доремифасольки".
18.55 БАНТ: "Репортаж".
19.10 "Морена Клара". Телесериал.
20.00 Агентство "Пармикс": "Городские часы", "Новости".
20.20 Гости восьмого канала: "Я и мой пес".
20.40 "Шансы". Телесериал.
21.30 Студия "БМ".
21.45 Время местное.
22.20 "Двойник". Худ.фильм.

## КЛЕЦКІЯ НАВІНЫ

### КОНЬ, МОЙ КОНЬ

З-за шалёных цэн на бензін і дызпаліва для многіх вяскоўцаў карыстанне транспартам ужо не па кішэні. Мабыць таму ўсё больш калгаснікаў жадаюць набыць каня (усяго іх у так званым прыватным сектары каля пяцідзесяці). Адначасова расце пагалоўе "буланчыкаў" і ў гаспадарках раёна — у калгасах "Прагрэс", "Чырвоны сцяг", племзаводзе "Чырвоная зорка".

На конях не толькі падвозяць фураж на жывёлагадоўчыя фермы. У гэтыя асеннія дні вяскоўцы пераворваюць бульбянішча, назапашваюць паліва. Як і ў далёкія гады, верны конь зноў служыць хлебаробу.

### «ЗАЛАТЫЯ» КЛЮЧЫ

Што і казаць, наваселлі ў вёсках сёння гуляюць не часта. Перакосы ў эканоміцы стрымліваюць ход будаўніцтва. І ўсё ж там-сям шчаслівыя сем"і атрымліваюць ключы ад добраўпарадкаваных кватэр. У калгасе імя Ульянава нядаўна здадзены ў эксплуатацыю два шасцікватэрныя дамы з усімі камунальнымі выгодамі. Сярод навасельцаў сем"і шафёраў Сяргея Дзенісені і Юрыя Дубіны, трактарыстаў Віктара Мазана і Вячаслава Бабіча, будаўніка Васіля Скрынніка, энергетыка Аляксандра Мацейкі. Вось ужо сапраўды: "залатыя" ключы атрымалі яны.

Значныя сродкі выдаткоўваюць на будаўніцтва жылля, развіццё сацкультбыту ў калгасах "Камунар", "Сцяг Саветаў", "Шлях да камунізму".

### ВЯРНУЛІСЯ ДА «БУРЖУЕК»

Колькі б ні запэўнівалі ўлады людзей, што зімою не будзе перабояў у цеплазабеспячэнні, многія ўжо не вераць гэтаму. Тым больш у памяці мінулая зіма, калі ў кватэрах часам ртутны слупок упарта не хацеў ісці ўгару. У калгасе "Прагрэс" кацельня працуе на мазуце, якога заўсёды чамусьці ў абрэз. Сёлета многія вяскоўцы без лішняга шуму ў сваіх кватэрах зрабілі печы-стаякі або паставілі жалезныя "буржуйкі".

Індывідуальнаму ацяпленню аддаюць перавагу і ў калгасе "Авангард" (больш сямідзесяці сем"яў маюць свае, правераныя дзядамі і бацькамі, "сістэмы ацяплення"). "Калі ў мяне назапашаны торфабрыкет і дровы, дык і зіма не страшная", — пачуў ад пажылога калгасніка.

*Канстанцін ПРЫЁМКА.*

## Крымінал

### ЗАМІНІРАВАНА ШКОЛА

Ад званка-перасцярогі дырэктара сталічнай школы па вуліцы Надзеждзінскай у дрыжыкі кінула. Што рабіць? За дапамогай звярнуліся ў Ленінскі райаддзел міліцыі. У тэрміновым парадку эвакуіравалі дзяцей, абследавалі будынак і нічога, на шчасце, выбухованебяспечнага не знайшлі. Нечы каварны жарт прынёс столькі трывог і хваляванняў.

### СПРОБА АБРАБАВАЦЬ... АМОНАЎЦА

зразумела ж, закончылася безвынікова. Але калі ў падземным пераходзе па праспекце Ф.Скарыны невядомы прыставіў амонаўцу пісталет (пазней высветлілася, газавы), той разгубіўся: жартуе чалавек ці сур"ёзна?

А злачынца не жартаваў. П"янаму бізнесмену не хапала на выпіўку, вырашыў пайсці на "вялікую дарогу". У якія краі яна яго прывядзе, вызначыць суд.

### ВЫКРАЛІ ПАМЯЦЬ

Са слязамі на вачах звярнулася ў Першамайскі аддзел міліцыі выкладчыца Белдзяржуніверсітэта: на Усходніх могілках вандалы-зладзеі выкралі бронзавы барэльеф з помніка бацьку. Злачынцаў, зразумела ж, прывабіў кошт рэчы — каля дзесяці мільёнаў. А для дачкі балюча, што зняважана памяць. Да гонару супрацоўнікаў міліцыі, яны знайшлі "прыхільнікаў мастацтва" — двух работнікаў камерцыйнай структуры.

### У СТАЛІЦЫ «ЗЯЛЁНЫЯ» СЛЕДЧЫЯ

З дваццаці двух мінскіх следчых пракуратуры дванаццаць працуюць менш чым год. Гэтая акалічнасць не лепшым чынам адбіваецца на якасці расследуемых крымінальных спраў.

Начальнік следчага аддзела Леанід Літвінюк вельмі заклапочаны ўзнікшай сітуацыяй. У той жа час ён лічыць, што "зялёным" пара медалі даваць — працуюць яны за сябе і за таго хлопца. Лёгка можна ўявіць цяжар ношы, узваленай на іх плечы: з 21 крымінальнай справы 15 — па забойствах. А якая падзяка? Гэта відаць па зарплаце: крыху больш чым 50 тысяч. І так на працягу ўсяго года, бо менавіта столькі часу яны з"яўляюцца стажорамі, а не атэставанымі паўнапраўнымі следчымі.

Вось і тлумачэнне, чаму не прываблівае выпускнікоў юрыдычных ВНУ некалі прэстыжная служба. А тыя, хто прыйшоў, з матэрыяльных меркаванняў гатовы стажыравацца ў якасці... міліцэйскіх сяржантаў, зарплата ў якіх куды вышэйшая, чым у дыпламаваных спецыялістаў.

### ПРЫЙШОЎ З ПАКАЯННЕМ

Маладзечна не ведала яшчэ такой дарожна-транспартнай трагедыі. На адной з вуліц легкавая машына забіла адразу траіх: двух мужчын і дзіця.

Віноўнік аварыі з месца здарэння ўцёк. Аператыўныя пошукі па "гарачых" слядах выніку не далі. І толькі на наступны дзень у гаррайаддзел з"явіўся з пакаяннем... капітан міліцыі, інспектар мясцовага аддзялення ДАІ. Каментарыі, як кажуць, лішнія.

А вось яшчэ прыклады жудасных дзеянняў людзей у міліцэйскай форме. У Касцюковічах лейтэнант, оперупаўнаважаны крымінальнага вышуку, разам з сябрамі ў бойцы да смерці збілі маладога хлопца. Нараўлянскі міліцыянер патрульна-паставой службы на паляванні неасцярожным выстралам параніў у грудзі шафёра "хуткай дапамогі", якога ўжо і родная бальніца не выратавала.

### З ПРАКУРАТУРАЙ НЕ ЖАРТУЙ

Сумны фінал нахабнай выхадкі лагойскага ўгоншчыка, які паквапіўся на ўласнасць мясцовай пракуратуры. Угнаць службовы аўтамабіль ён угнаў, але не справіўся з кіраваннем, перакуліўся і загінуў.

### КРЫВАВЫЯ РАЗБОРКІ

У лясным масіве каля вуліцы Ваўпшасава прагучалі стрэлы. Крывавая разборка ў беларускай сталіцы закончылася не на карысць двух жыхароў Вільнюса. Ахвяры памерлі ад агнястрэльных раненняў у галаву, грудзі і спіну.

Такая загадка мучыць і бярозаўскую міліцыю: хто застрэліў непрацуючага ў вёсцы Карпяшы?

*Уладзімір СТРЭЛЬСКІ, БЕЛІНФАРМ.*

***У адпаведнасці з загадам Міністэрства юстыцыі БАДППР прыпыняе сваю дзейнасць. Прапановы і прэтэнзіі прымаюцца на працягу месяца.***

## Традыцыі

# ДЫРЭКТАРСКАЯ "НІВА" — АГРАНОМУ

Не часта збіраецца столькі машын ля Навадворскага Дома культуры. Большасць з іх сталі міні-магазінамі, дзе можна было купіць не толькі ўсё тое, чым багатая наша зямля, а і асобныя прамысловыя тавары, выраблены ў гаспадарках Мінскага раёна. Гандлёвыя прылаўкі раскінуліся і ў фае Дома культуры. Бяры што хочаш. Цэны ж намнога ніжэйшыя, чым у магазінах.

Шуміць-бурліць кірмаш — выстаўка калгасаў і саўгасаў, прысвечаная Дню работнікаў сельскай гаспадаркі і перапрацоўчай прамысловасці. А якое свята без песні і танцаў?

— Пойдзем, паслухаем і пабачым, чым нас парадуюць сёння "Крупіцкія музыкі", — гаварылі ўдзельнікі кірмашу. — У апошнія гады яны за валюту выступаюць на замежных гастролях, а тут даюць канцэрт бясплатна.

Па добрай старой традыцыі ў раёне вызначылі, хто дабіўся сёлета найбольшых ураджаяў і прываг, а ў каго не хапіла сіл зрабіць які-небудзь прыкметны крок наперад. Прыемна было слухаць хлебаробам, што іх раён заняў прызавое месца ў вобласці па ўраджайнасці збожжавых, бульбы і караняплодаў.

Сярод лідэраў па вытворчасці збожжа знаходзіцца і калектыў Ждановіцкага цяплічнага камбіната. Ажыўленне ў прысутных выклікаў такі факт. Дырэктар камбіната Міхаіл Дражын сказаў галоўнаму аграному гаспадаркі Арцёмаву:

— Атрымаеш, Міхаіл Паўлавіч, ураджай збожжавых 40 цэнтнераў з гектара, аддам табе сваю "Ніву".

— Ці не высокая стаўка? — спытаў Арцёмаў. — Неяк няёмка пакідаць сваё начальства без машыны.

— Гэта ўжо мая праблема. Ты толькі пабольш зерня дай.

Фінал — атрымана 45,1 цэнтнера з гектара.

Такіх спецыялістаў, якія паслядоўна ўкараняюць навукова абгрунтаваную сістэму земляробства, інтэнсіўныя тэхналогіі апрацоўкі сельскагаспадарчых культур, у Мінскім раёне нямала. Гэта брыгадзіры Міхаіл Гладкі з калгаса імя Гастэлы, Ніна Літвінава з агароднінная фабрыкі, Людміла Бабіцкая з калгаса "Вішнёўка" і г.д.

Добрых слоў заслугоўваюць механізатары, іншыя работнікі сельскагаспадарчай вытворчасці. Лепшым з лепшых былі ўручаны каштоўныя падарункі, прэміі, заахвочвальныя граматы і дыпломы.

*Пётр СІДАРОВІЧ.*

## Спорт

### Без медалёў, але ж...

Мужчынская і жаночая каманды Беларусі выступілі ў фінале каманднага чэмпіянату свету па спартыўнай гімнастыцы, які праходзіў у Дортмундзе. Мужчыны з нашай рэспублікі, сярод якіх былі мінчане шасціразовы чэмпіён Алімпійскіх гульняў Віталь Шчэрба і чэмпіён свету Іван Іванкоў, занялі чацвёртае месца, уступіўшы медалі гімнастам з Кітая, Расіі і Украіны. Шостымі закончылі чэмпіянат беларускія гімнасткі. Іх абышлі спартсменкі Румыніі, ЗША, Расіі, Кітая і Украіны. Хоць каманды Беларусі засталіся без узнагарод, іх месца ў сусветным табелі аб рангах можна лічыць больш-менш паспяховым.

### Няма роўных "Гарызонту"

Восем жаночых каманд прымаюць удзел у чэмпіянаце Беларусі па баскетболу. Пасля двух тураў па-за канкурэнцыяй выступае мінскі "Гарызонт", спартсменкі якога ў шасці матчах атрымалі шэсць перамог, пры выдатных суадносінах забітых і прапушчаных мячоў — 751:280.

На другім месцы мінская каманда РШВСМ-СКАФ, якая атрымала пяць перамог.

### Названы сапернікі

Валейбалісты СКА з нашай вобласці і мінская жаночая каманда "Амкадор" выступяць у еўрапейскіх Кубках уладальнікаў кубкаў. На першым этапе сапернікам армейцаў будзе ізраільскі клуб "Хазаэлем", а "Амкадор" 10—11 снежня правядзе два матчы ў Люцэрне са швейцарскай камандай "БТВ".

### У далёкую Аргенціну

На чэмпіянат свету па футзалу ў Аргенціну вылецела нацыянальная зборная Беларусі. Галоўны трэнер Сяргей Сафонаў для ўдзелу ў чэмпіянаце запрасіў ігракоў з розных каманд, але найбольш з мінскага "Атланта" — восем.

На першым этапе 24 каманды разбіты на шэсць груп. Сапернікамі беларускіх спартсменаў у групавым турніры з'яўляюцца калумбійцы, славакі і амерыканцы. Далей чэмпіянат пройдзе па алімпійскаму прынцыпу — 1/8 фіналу, чвэрцьфіналы, паўфіналы і фінал.

### Лідзіруюць СКА і "Спадарожнік"

У Мінску і Магілёве праходзілі гульні першага тура чэмпіянату Рэспублікі Беларусь па валейболу сярод мужчын.

Усе каманды правялі па тры матчы. У Мінску без паражэння выступілі армейцы нашай вобласці. З лікам 3:0 яны выйгралі ў валейбалістаў Вышэйшага ваеннага інжынернага вучылішча, мінскай "Арбіты" і брэсцкага "Заходняга Буга". У магілёўскім квартэце таксама шэсць ачкоў набраў віцебскі "Спадарожнік".

У канцы снежня ўсе восем каманд збяруцца ў Мінску і згуляюць матчы другога тура. Пасля гэтага два слабейшыя клубы развітаюцца з першай лігай, а астатнія шэсць правядуць яшчэ чатыры туры, па выніках якіх і будуць разыграны ўзнагароды.

### Рыхтуюцца да Алімпіяды

Мужчынская і жаночая зборныя Беларусі рыхтуюцца да Сусветнай шахматнай Алімпіяды, якая 1 снежня пачнецца ў Маскве. У саставе мужчынскай каманды гонар нашай рэспублікі будуць абараняць міжнародныя гросмайстры Барыс Гельфанд, Андрэй Кавалёў, Віктар Купрэйчык, а таксама Юрый Шульман, Вячаслаў Дыдышка і Аляксей Фёдараў. Жаночую каманду Беларусі ўзначальвае Алена Заяц.

Падрыхтоўка да Алімпіяды праходзіць у спартыўным комплексе "Раўбічы".

*(Наш кар.).*

**Наш адрас:**
220013, гор.Мінск, вул.Б. Хмяльніцкага,10-А,паверх 9, рэдакцыя газеты "Мінская праўда".

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмнай рэдакцыі —68-29-76,
намесніка галоўнага рэдактара —68-25-81,
адказнага сакратара —68-26-48,
сакратарыята —68-26-48,
аддзелаў: Саветаў —68-26-38,
адукацыі і культуры —68-25-76,
сацыяльна—эканамічнага —68-25-43,
грамадска-палітычнага —68-25-42,
інфармацыйна-аналітычнага —68-28-33,
пісьмаў і маральна-бытавых праблем —68-25-83,
ілюстрацый —68-25-03,
камерцыйнага — 68-25-86,
бухгалтэрыі —68-26-65.
Тэлефоны карэспандэнцкіх пунктаў:
у Барысаве —(8-277)5-15-61,Вілейцы —(8-271)5-57-86,Нясвіжы—(8-270)5-41-88,
Салігорску — (8-210) 2-49-60.

ЗАСНАВАЛЬНІК — Мінскі абласны Савет дэпутатаў, 220625, г.Мінск, вул. Энгельса, 4.
"Мінская праўда"— орган Мінскага абласнога Савета дэпутатаў.

Галоўны рэдактар М.А.ШЛОМА.

Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара.
Адказнасць за падбор і дакладнасць апублікаваных фактаў і іншых звестак нясуць іх аўтары.
Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Час падпісання ў друк: па графіку 22.10.
Нумар падпісаны ў 22.00.
Набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе "Мінскай праўды".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 79.
Індэкс 63923. Зак. №126.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12